Тыднёвік Магілёўскі
№ 28 (28)
14.10.97



*Пачынаючы газэту мы меркавалі публікаваць у кожным яе нумары, на першай старонцы, прыгожы краявідны здымак. Канцэптуальна мелася на ўвазе жыданне «эстэтычна выхоўваць чытачоў, абуджаць і патрымваць лірычную любоў да роднага краю». Наогул былі мы не супраць таго, каб рабіць газэту, «приятную во всех отношениях»... Аднак з усяе лірыкі жыцця толькі і ўдаецца, што «цісну́ць» краявід, як прыкладам, сёння. А ледзь не ўся астатняя газэта — аб зусім іншых рэчах. Жорсткіх і непрыемных, няўтульных і раздражняльных, далёка, словам, нелірычных. Можна, як робяць многія, не надта звяртаць на ўсё гэта ўвагі. Праўда, мы перакананы, што пры гэткай абыякавасці і любові толькі да свайго духоўнага камфорту, не застанецца ў краіне аніякай жыццёвай прыгажосці. Ні рэальнай, ні фоткавай.*

## Рэха рэвалюцыі...

Сённяшні нумар нашай газэты амаль поўнасцю складзены з дакументаў, заяў і зваротаў, якія рэдакцыі прадставілі непасрэдныя — дэмакратычныя і "выпадковыя" — удзельнікі святкавання ў Магілёве 80-годдзя Кастрычніцкай рэвалюцыі. З гэтай нагоды, заўважым, — не партыі або грамадскія арганізацыі, як гэта прынята на «палітычныя» святы ва ўсім свеце, — а мясцовая выканаўчая ўлада (зацята лічыцца ў нас беспартыйнай) наладзіла мітынг на плошчы Леніна. Сюды 7 лістапада па разнарадках з выканаўчых калектываў, ведамасных арганізацый, «дзяржаўных» грамадскіх суполак і навучальных установаў сабраліся па-святочнаму аздобленыя калоны. Толькі маленькая група людзей (акрамя, зразумела, верных ленінцаў-ветэранаў) прыйшла сюды па добрай волі і сваёй ініцыятыве. І, зразумела, — у поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй Беларусі, гарантуючай усім свабоду выказвання думак.

Думкі, аднак, у гэтай групы не былі святочныя. За гэта на іх зрабілі напад, затрымалі і судзілі (падрабязнасці ў рэпартажы В.Макарэнкі).

Ды ці мала хто яшчэ ў гэты дзень лічыў, з пункту погляду маралі і ведання гісторыі, што надта недарэчна радавацца юбілею адной з самых трагічных падзей у гісторыі чалавецтва?! Але іх не было на плошчы, а гэтыя некалькі чалавек вырашылі, зноў-такі ў поўнай адпаведнасці з Канстытуцыяй, не хаваць свайго настрою — за гэта і пацярпелі ад нашай усё больш нервовай улады. Гэта глядзелася нейкім дзікім кантрастам з падзеямі таго дня нават у абодвух сталіцах рэвалюцыі — Маскве і Пецярбурзе. Усім хапіла месца і часу праявіць сваё стаўленне да 80-ых угодкаў Кастрычніка. Нагадаем, дарэчы, што у Расеі дзень гэты цяпер адзначаецца як Дзень прымірэння і памяці.

У нас ўлада не хоча ні памяці, ні прымірэння. Яна зноў хоча аднадушшай рабскай паслухмянасці грамадства, каб ніякія «шкодныя праявы» не перашкаджалі яе духоўнаму камфорту і святочнаму настрою. Яна зноў прагне поўнай незалежнасці ў сваіх справах і дзеяннях ад народа, якому нібыта служыць. Яна не ўмее рэагаваць на іншыя думкі ніякім чынам, акрамя рэпрэсіўных мераў. Яна зноў падзяляе людзей на «сацыяльна блізкіх» і «ворагаў народа». Тым больш, што адпаведныя «органы» зноў пад рукой, ў поўным падначаленні... не закону, канечне, а ўладзе.

...Увесь тыдзень не можам адмахнуцца ад гэтай «карцінкі»: сышоўшы з ленінскай трыбуны Кулічкоў і Сівіцкі «з таварышамі» ў прыемным настроі з нагоды добра арганізаванага мітынгу, мяккага надвор'я і наступіўшых выхадных накіраваліся да хаты ці ў іншае месца, каб у цесным ці шырокім коле адзначыць свята, падняць кілішачак каньяку, смачна закусіць. А тым часам двое непаўналетніх дачок, што два месяцы назад назаўсёды засталіся без маці, не дачакаліся ў гэты дзень свайго бацькі Валадара Цурпанава. Не прыйшоў ён дамоў і пасёння: сядзіць за кратамі. Не прыйшлі дадому і яшчэ трое: Сяргей Абадоўскі, Валеры Разумаў, Віктар Абрамовіч.

Пры чым тут нашыя губернатар з мэрам, можа падумаць не адзін з чытачоў. Хутчэй за ўсё не яны непасрэдна аддавалі загад на правакацыю і затрыманне ні ў чым не вінаватых людзей. Ды мы і не настойваем, што — яны. Проста, успомнілася, што і Сталін не ведаў пра перагібы, і Брэжнеў не ведаў пра «псіхушкі», і нават Гарбачоў быў не у курсе тбіліскіх падзей...

Віна перад Кулічковым і Сівіцкім затрыманых сумленных людзей адзіная: яны перасталі быць савецкімі людзьмі. Яны асмеліліся стаць тымі, кім нарадзілі іх бацькі і сам Бог — вольнымі грамадзянамі сваёй краіны. Яны прагнуць шчасця і волі сваім дзецям і ўнукам. Яны маюць свае, а «не прэзідэнцкія» меркаванні аб жыцці, яго сэнсе і мэтах. Яны жывуць у згодзе з сумленнем і законамі. Яны ўсё робяць адкрыта і гледзячы людзям у вочы.

Такіх вінаватых пасля рэвалюцыі ў савецкай краіне былі мільёны. Іх трымалі за кратамі і ў «псіхушках». Іх растрэльвалі. Іх ссылалі... Як не здаецца гэта многім нашым наіўным людзям неверагодным — час гэты вяртаецца да нас. Гэта найлепш ведаюць і разумеюць, бо самі ўдзельнічаюць у гэтым, нашыя сённяшнія кіраўнікі.

Іх наіўнымі аніяк не назавеш. Яны добра ведаюць сапраўдную цану народнага святочнага энтузіязма і шчырасці. Яны добра ведаюць меру ўлюблёнасці людзей у іхняга сённяшняга правадыра і меру свайго сапраўднага аўтарытэту... Проста яны перакананы, што здолеюць больш не дапусціць ніякай «перамены курса».

Таму і не даруюць нават самых нязначных, самых бясшкодных, самых абмежаваных праяўленняў грамадзянскага іншамыслення і адкрытых учынкаў. Дэманструючы мімаходзь, міжволі зразумела, і сапраўдную цану сваёй жа канстытуцыі...

Што і казаць, сіла можа многае. Акрамя аднаго: спыніць час. Нават шляхам фізічнага і духоўнага знішчэння ледзь не ўсіх народаў на «адной шостай частцы свету», пра што сведчыць у прыватнасці вопыт горача любімай нашай уладай рэвалюцыі. Ёсць у яе і іншыя «урокі», жахлівыя для абодвух процістаяўшых бакоў.

Для абодвух, заўважце... Хаця многім тагачасным гарачым галовам і адданым байцам здавалася, што гэта толькі ў іх ёсць і назаўсёды захаваецца права — судзіць. Гісторыя ж, як вядома, распарадзілася зусім па-іншаму. І правільна зрабіла.

**РЭДАКЦЫЯ.**

## Магілёў: рэха рэвалюцыі

*Усе здымкі, якія змешчаны на развароце гэтага нумара, не сённяшні, а ўчарашнія. Тык бы мовіць — з архіва. Такое адчуванне, аднак, што і самае жыццё у Беларусі імкліва вяртаецца назад. Вось і выглядаюць учарашнія здымкі ўсё яшчэ актуальнымі. Хаця гэткая актуальнасць, зразумела, не радуе. Небяспечная і нават жахлівая яна. Каб падкрэсліць гэта мы і выкарысталі "фотаархіўны прыём". І таму, канешне, каб падкрэсліць і такую думку: толькі ад нас саміх залежыць ці здолеем здаць, нарэшце, у архіў учарашнія думкі, учарашнія ўчынкі, учарашнія ілюзіі. І разам з імі — сённяшняе жыццё. Якое насамрэч — таксама ўчарашняе. Пра гэта сённяшнія публікацыі.*



## Еще страница в "Белую Книгу"

7 ноября после окончания митинга, посвященного годовщине октябрьского переворота, в Могилеве были задержаны следующие граждане:

Ободовский Сергей — председатель областной организации свободных профсоюзов

Ободовский Иван — член руководства организации "Малады фронт"

Цурпанов Валадар — член Рады могилеской городской организации БНФ

Разумов Валерий, Макаренко Виталий, Абрамович Виктор — активисты БНФ.

Судья Центрального райсуда г. Могилева Галина Кужелева осудила по ст. 166 КоАП РБ:

Ободовского Сергея — на 5 суток,

Ободовского Ивана — предупреждение,

Цурпанова Валадара — на 13 суток,

Разумова Валерия — на 5 суток,

Макаренко Виталия — оправдан,

Абрамовича Виктора — на 5 суток.

Ободовский С., Цурпанов В., Разумов В. объявили голодовку протеста против произвола милиции и суда.

В действительности произошло следующее. Когда активисты могилевской организации "Молодого фронта" возвращались с митинга (на котором они вели себя спокойно и общественный порядок не нарушали), на них набросились люди в штатском, которые стали хватать их за руки и требовать, чтобы ребята прошли с ними. На вопросы "Кто вы?" и "Предъявите ваши документы" вышеупомянутые люди в штатском не отвечали, а вели себя грубо и вызывающе. Ребята отказывались пройти с ними, потому что им не были предъявлены удостоверения личности и они не знали, кто эти люди в штатском. Завязалась свалка, был вызван ОМОН, который задержал вышеуказанных граждан.

Я присутствовал при этом как наблюдатель БХК, все видел, и со всей ответственностью заявляю, что данный инцидент был намеренно спровоцирован "людьми в штатском". Я достаточно хорошо знаю оперативников Центрального РОВД (много раз приходилось встречаться в судах). Их среди "людей в штатском" не было. Поэтому я утверждаю, что это были оперативники КГБ. После того, как ОМОН начал хватать людей, они "испарились". В суде их не было. В качестве свидетелей выступали ОМОНовцы.

**Представитель БХК по Могилевской области Сивуха В.И.**

ЖЫЦЦЁ ПА ДЭКРЭТУ:

## Разный

Седьмое ноября могилевские власти отметили не только митингом, но и очередной "победой" над оппозицией, законом и правами человека.

Началось с того, что еще до начала митинга к представителям БНФ и Молодого Фронта подошли несколько сотрудников милиции и потребовали предъявить плакаты и транспаранты, с которыми планировалось выйти на площадь. Услышав в ответ, что их требования не законны, представители МВД вызвали на помощь ОМОН. Все попытки объяснить им, что мы собираемся участвовать в открытом мероприятии, организованном властями, и имеем полное право высказывать свое мнение — успеха не имели. Милиция запретила нам идти на площадь под угрозой применения силы. Позднее, узнав что наша группа все-таки участвует в митинге, милиция решила проучить тех, кто осмелился ее не послушать. Не исключаю, что наши блюстители порядка получили команду на свои действия от когонибудь с "высокой" трибуны.

Когда митинг закончился и люди стали расходиться, продолжая держать в руках свои плакаты и портреты, мы тоже подняли свой транспарант, на котором было написано "Коммунизм, фашизм и лукашизм — чума 20 века", и еще один с надписью "Молодой Фронт — это возрождение нации. Присоединяйтесь!" Пройти нам спокойно удалось лишь несколько минут.

Неожиданно с тротуара на нас бросились коротко стриженные крепкие молодые люди, одетые в основном в кожаные куртки. Некоторые из них, как потом удалось выяснить, являются сотрудниками уголовного розыска, другие были сотрудниками КГБ. Все они с ругательствами стали заламывать руки назад тем из нас, на кого у них были, говоря их языком, "ориентировки". Первыми в этом списке, конечно, значились член городской Рады БНФ В.Цурпанов и председатель областной организации Свободных профсоюзов С.Ободовский, активист Молодого Фронта И.Ободовский.

Схватили также членов БНФ В.Разумова, председателя Центральной районной организации Фронта В.Абрамовича. "Скручивали" и меня, но после того, как я предъявил журналистское удостоверение, с угрозами вытолкнули из завязавшегося клубка людей. По-видимому, на меня "дело" пока не заведено.

Досталось всем, кто был в нашей группе, и матов, и угроз, и ударов, и выкручивания рук. Тем временем на помощь "штатским" прибыл ОМОН. Его бойцы с еще большей яростью и умением набросились на недавних участников митинга. Примечательный эпизод: одному из омоновцев я сказал, обратившись к нему как к блюстителю порядка, что так обращаться с людьми недопустимо. Он страшно обиделся за "блюстителя" и сравнение своих действий с известным всему миру поведением "чилийской хунты". Вообще, он кажется вполне серьезно решил, что слово хунта — это мат, возможно более "интеллигентный", чем тот, которым в совершенстве владеет сам, пообещав "отразить" это в протоколе.

Копия:
В Белорусский Хельсинский Комитет г. Минска,
220071, ул. Гикало 20-54

Начальнику УВД
Могилевского облисполкома
полковнику Апанасевичу
**Буракова** Александра Владимировича
212009, г. Могилев, ул. Космонавтов, 52-59
**Сафоновой** Ольги Владимировны
212007, г. Могилев, ул. Воровского, 24

**О НЕЗАКОННЫХ ДЕЙСТВИЯХ СОТРУДНИКОВ ОМОНА**

## Заявление

7 ноября 1997 г. примерно в 15-00 мы стояли около здания Центрального РОВД и разговаривали с друзьями, которые ждали решения судьбы задержанных после официального митинга Ободовского С., Цурпанова В. и др. При этом считаем необходимым отметить, что участия в митинге мы не принимали и до 12-30 ничего о задержании вышеуказанных лиц не знали.

Примерно в 15-10 из здания РОВД вышли ОМОНовцы численностью примерно в 5-7 человек. Один из них, предположительно, по званию старший сержант (темноволосый, над верхней губой - пятно) подошел к нам и сказал: "Что вы тут стоите?" и потребовал предъявить документы. После чего Сафонова О. попросила этого ОМОНовца предъявить служебное удостоверение, на что он в невежливой форме отказал. Несмотря на то, что ОМОНовец отказался предъявить свое удостоверение, мы предъявили ему те документы, которые у нас были: Бураков А. предъявил зачетную книжку с фотографией, а Сафонов О. —читательский билет областной библиотеки с фотографией.

После этого Сафонова О. спросила, почему у нее требуют удостоверить личность, ведь она ничего не нарушала. На что ОМОНовец ответил, что она подозревается в совершении преступления. Тогда Сафонова О. спросила: "Какого преступления?". На это ОМОНовец ответил: "Вам потом расскажут. Вы слишком много знаете".

Затем он взял зачетную книжку Буракова А. и спросил у него: "Зачем вы ругаетесь матом?". На что Бураков А. ответил, что он вообще никогда не ругается. После этого ОМОНовец потребовал, чтобы Бураков А. проследовал с ним в Центральный РОВД. Бураков беспрекословно подчинился. В дежурном помещении Центрального РОВД Бураков А. попросил бумагу, чтобы написать жалобу начальнику РОВД. В этой просьбе ему отказали. Позже ОМОНовец стал отрицать, что он безосновательно обвинял Буракова А. в хулиганском поведении, и при дежурном офицере лейтенанте Тарновском, сказал, что Бураков был задержан для выяснения личности. Бураков А. сказал, что на улице стоят несколько свидетелей, которые могут подтвердить то, что данный ОМОНовец обвинял Буракова в хулиганском поведении, а Сафонову — в неизвестном преступлении. Но данное заявление не было принято сотрудниками Центрального РОВД к сведению, хотя ОМОНовец совершил поступок, подпадающий под статью $156^2$ Кодекса РБ об административных правонарушениях — "Клевета, то есть распространение заведомо ложных, позорящих другое лицо измышлений". При этом Бураков А. четыре раза внятно спросил у ОМОНовца его фамилию и должность, на что он ответил отказом.

Считаем, что подобное поведение сотрудника ОМОНа подрывает доверие граждан к сотрудникам милиции и дискредитирует честных и добросовестных работников правоохранительных органов в общественном сознании.

Просим Вас принять меры по предотвращению подобных действий сотрудников ОМОНа впредь.

Прокурору
Центрального района г. Могилева
Качанову А.Н.
от Могилевского отделения
Белорусского Хельсинского Комитета
г. Могилев, пр. Мира 20-32.

## Заявление

### УВАЖАЕМЫЙ ГОСПОДИН ПРОКУРОР!

7 ноября после окончания официально разрешенного митинга, посвященного годовщине октябрьского переворота в России, был задержан Валадар Цупанов, один из наиболее активных деятелей Могилевской организации БНФ. Судья Центрального районного суда г. Могилева Г.Кужелева постановила подвергнуть его административному аресту сроком на 13 суток по ст. 166 Кодекса РБ об административных правонарушениях.

Мы считаем, что судья Кужелева недостаточно полно исследовала материалы дела, прежде всего:

— не были заслушаны свидетели со стороны обвиняемого;

— не был приглашен переводчик белорусского языка.

Возможно, это привело к тому, что не было учтено семейное положение В.Цурпанова. А именно: у него недавно, в августе 1997 г. умерла жена и на его иждивении в настоящее время находятся двое дочерей (14-ти и 11-ти лет). Кроме того, у него хроническая язвенная болезнь желудка.

Наказание, по нашему мнению, не соответствует степени его вины — ведь другие обвиняемые по этому инциденту (Ободовский С., Разумов В., Абрамович В.) получили только по пять суток, хотя все вели себя в том инциденте примерно одинаково и все рапорты сотрудников милиции были написаны "под копирку". Примерно одинаковыми были и протоколы о правонарушении.

Почему был выделен Цурпанов? Именно потому, что в суде над Цурпановым были нарушены процессуальные нормы. Ведь по другим обвиняемым свидетели были выслушаны, интересы обвиняемых представлял заявленный ими представитель. Свидетели со стороны Цурпанова не заслушивались, он был лишен своего законного представителя. Цурпанов говорит исключительно по-белорусски, вполне может быть, что судья Кужелева не все понимала из его объяснений.

Таким образом, несоблюдение процессуальных норм привело к неоправданно жестокому постановлению суда.

Такое постановление, в свою очередь, привело к тому, что Цурпанов объявил голодовку (заявление о которой у Вас имеется). Эта голодовка является опасной для его жизни, потому что он не вполне здоров (у него язвенная болезнь желудка). Данная ситуация вызвала повышенный интерес средств массовой информации и международных правозащитных организаций.

В связи с вышеизложенным просим Вас, господин прокурор, опротестовать постановление Центрального районного суда, как принятое с нарушением процессуальных норм и не соответствующее тяжести правонарушения.

**Представители Белорусского Хельсинкского Комитета по Могилевской области**
**Сивуха В.И.**
**Рослова Н.А.**

